# МАТЭРЫЯЛЫ НАВУКОВАГА КРУГЛАГА СТАЛА ІНСТЫТУТА ГІСТОРЫІ НАН БЕЛАРУСІ «ПАЛІТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XX ст.: ТЭАРЭТЫЧНЫЯ ПАДЫХОДЫ І ПРЫНЦЫПЫ ПЕРЫЯДЫЗАЦЫІ» (Мінск, 22 верасня 2011 г.)

Круглы стол праводзіўся ў мэтах выпрацоўкі агульных падыходаў для выканання дзяржаўнай праграмы «Гуманітарныя навукі як фактар развіцця беларускага грамадства і дзяржаўнай ідэалогіі» (заданне «Палітычнае, сацыяльна-эканамічнае і канфесіянальнае развіццё Беларусі. Канец XVIII — пачатак XX ст.»).

Удзельнікам круглага стала было прапанавана абмеркаваць наступныя пытанні: перавагі і абмежаванні выкарыстання тэрміналогіі сучаснай палітычнай тэорыі ў вывучэнні палітычнай гісторыі Беларусі; тэарэтычныя падыходы да вызначэння сэнсу падзей, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў рамках палітычнай гісторыі Еўропы; палітычны працэс як «прыкладанне высілкаў» розных інстытутаў і груп на працягу «доўгага XIX стагоддзя»; магчымасці выпрацоўкі тэарэтычна несупярэчлівай перыядызацыі беларускай гісторыі, якая адпавядае рэчаіснасці; адэкватнасць наяўных крытэрыяў перыядызацыі палітычнай гісторыі Беларусі.

Адкрыў круглы стол намеснік дырэктара Інстытута гісторыі НАН Беларусі **М. Г. Жылінскі,** які адзначыў, што дырэкцыя Інстытута падтрымлівае кіраўніка задання «Палітычнае, сацыяльна-эканамічнае і канфесіянальнае развіццё Беларусі. Канец XVIII — пачатак XX ст.» Валянціну Васільеўну Яноўскую, па ініцыятыве якой мы сабраліся. Ён выказаў пажаданне, каб круглы стол прайшоў у атмасферы ўзаемнай зацікаўленасці, і пазнаёміў прысутных са структурай Дзяржаўнай праграмы «Гуманітарныя навукі як фактар развіцця беларускага грамадства і дзяржаўнай ідэалогіі», якая складаецца з 6 падпраграм. Тая падпраграма, якая сёння прэзентуецца, мае назву «Гісторыя і культура». Выканаўцы — Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Мэта падпраграмы — падрыхтоўка агульнымі намаганнямі акадэмічных гісторыкаў і гісторыкаў з ВНУ да канца гэтай пяцігодкі (2011—2016 гг.) шматтомнай «Гісторыі Беларусі». Кожная падпраграма мае так званыя заданні. У нашай падпраграме 20 дзяржаўных заданняў, усе яны зарэгістраваны органамі дзяржрэгістрацыі. В. Яноўская ўзначальвае заданне 1.2.1. Яна з'яўляецца вопытным навуковым кіраўніком. Па выніках мінулай падпраграмы пад яе навуковай рэдакцыяй выдадзена манаграфія «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы». Гэтая праца атрымала добрыя водгукі ў асяроддзі навуковай супольнасці.

З дакладам «Палітычная гісторыя Беларусі ў XIX стагоддзі: прынцыпы фарміравання канцэптуальных рамак» выступіла **М. А. Сакалова.** Яна адзначыла, што палітычная гісторыя на працягу доўгага часу была найбольш часта крытыкуемай субдысцыплінай. Яшчэ Ж. Мішле імкнуўся даказаць, што «стрыжань» гісторыі складаюць сацыяльны стан грамадства, развіццё эканомікі і прамысловасці, літаратуры і грамадскай думкі, а не палітычная гісторыя — гісторыя праўленняў і дзяржаўных інстытутаў. У рамках марксісцкай парадыгмы, якая з'яўлялася тэарэтыка-метадалагічнай асновай савецкай гістарыяграфіі, «палітычнае» адносілі да надбу-

довачных фактараў (суперструктуры) і разглядалі палітычную гісторыю як эпіфеномены гісторыі вытворчых адносін. Рост папулярнасці гістарычнай антрапалогіі сярод айчынных гісторыкаў на працягу апошніх дзесяцігоддзяў практычна вывеў палітычную гісторыю Беларусі на перыферыю гістарычных даследаванняў. «Увагу гісторыкаў у першую чаргу прыцягваюць эканоміка, грамадства, культура, у той час як палітычная гісторыя... дакацілася да таго, што сталі гучаць сумневы ў яе эпістэмалагічнай каштоўнасці», — пісаў у канцы XX ст. Жак ле Гоф. Як гэта ні парадаксальна, але менавіта ён, адзін з заснавальнікаў гістарычнай антрапалогіі, лічыў, што палітычная гісторыя застаецца «станавым хрыбтом гісторыі». У кнізе «Сярэднявечны свет уяўнага» ён паказаў перспектыўнасць палітычнай гісторыі пры ўмове выкарыстання напрацовак іншых гуманітарных і сацыяльных навук. «Пры стварэнні мадэляў новай татальнай гісторыі палітычнаму вымярэнню неабходна адводзіць такое ж істотнае месца, якое ў грамадстве адведзена феномену ўлады, гэтаму сучаснаму эпістэмалагічнаму ўвасабленню палітычнага. Гаворачы мовай метафары, наш час перастаў быць эпохай анатоміі, ён стаў эпохай атама, і палітычная гісторыя больш не “станавы хрыбет”, але “ядро” гісторыі», — пісаў ён.

Думаецца, менавіта гэтыя асноўныя тэзісы могуць легчы ў аснову спроб упарадкаваць апісанне палітычных працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XX ст, высветліць унутраныя заканамернасці развіцця палітычных структур гэтага перыяду. А ключавым канцэптам можа стаць, па-першае, паняцце палітычнай сістэмы з яе інстытуцыйнай (органы дзяржаўнага кіравання, палітычныя партыі і рухі, групы інтарэсаў, сродкі інфармацыі), ідэалагічнай (ідэалогіі: прынцыпы, ідэі, лозунгі, ідэалы, канцэпцыі; палітычная псіхалогія: пачуцці, настроі, забабоны, эмоцыі, думкі, традыцыі), нарматыўнай (палітычныя нормы і маральныя прынцыпы, якія вызначаюць і якія рэгулююць палітычнае жыццё грамадства), камунікатыўнай (сукупнасць адносін і формаў узаемадзеянняў, якія складваюцца паміж нацыямі, класамі, сацыяльнымі групамі і асобнымі індывідамі з нагоды іх удзелу ў арганізацыі палітычнай улады) і каштоўнаснай падсістэмамі. Па-другое, важную ролю можа выконваць паняцце палітычнага працэсу (прадстаўленне інтарэсаў груп і асобных індывідаў, інстытутаў, якія прымаюць палітычныя рашэнні; выпрацоўка і прыняцце палітычных рашэнняў; рэалізацыя палітычных рашэнняў).

Кіраўнік цэнтра гісторыі індустрыяльнага грамадства **М. У. Смяховіч** падзяліўся сваімі разважаннямі наконт таго, што такое палітычная гісторыя. Спасылаючыся на працу Фукідыда, ён зазначыў, што гістарычная навука — гэта гісторыя палітыкі і вайны. У гэтым плане палітычная гісторыя Беларусі існуе. Гісторыя палітычная, культурная, іншая — гэта гісторыя чалавечага жыцця, а чалавек — істота палітычная. Разам з тым гісторыкамі да гэтага часу палітычная гісторыя Беларусі яшчэ не напісана сістэмна. Калі браць класічную палітычную тэорыю, то яна тычыцца ў асноўным тых момантаў палітычнай гісторыі, калі ёсць дзяржава як цэнтральны элемент палітычнай сістэмы, калі няма дзяржавы, то і з сістэмай цяжка вызначыцца. У гэтым сэнсе існуюць некаторыя праблемы па XIX ст., таму што беларускай дзяржаўнасці на той час не было. У гэтым выпадку да палітычнай гісторыі мы павінны адносіць усё, што было звязана з беларускай *дзяржаўнасцю* і з гісторыяй беларускай дзяржаўнасці. Дзяржава і дзяржаўнасць — гэта паняцці, якія ставяць усё на сваё месца ў кантэксце рэвалюцыяў, войнаў і паўстанняў, усяго таго, што адбывалася на тэрыторыі беларускіх зямель у XIX ст. Ужо ёсць спроба ажыццявіць праект напісання гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Без гэтага праекта немагчыма казаць пра палітычную гісторыю, таму што цяжка сістэмна і суцэльна ўявіць, што ёсць тыя ці іншыя кірункі ў палітычным працэсе. Таму абсалютна слушнымі з’яўляюцца тыя пытанні, якія паставіла Марыяна Анатольеўна Сакалова. Бо калі аўтарскія тэксты ў паняццях будуць разыходзіцца паміж сабой, мы ніколі не прыйдзем да адзінай думкі, калі мы пад аднымі і тымі ж паняццямі не разумеем адны і тыя ж працэсы. І ў гэтым кантэксце такое вось навуковае абмеркаванне вельмі і вельмі неабходнае. Раздзелы

па XIX ст. будуць займаць цэнтральнае месца. Калі там з паняццямі разбяромся, то ўжо далей праблем менш узнікне, таму што пазней ужо была дзяржава, яе сістэма, інстытуты, адзначыў М. У. Смяховіч.

*Пытанне карэктнага выкарыстання тэрміналогіі былі закрануты ў выступленнях*:

**А. У. Унучак** засяродзіў сваю ўвагу на мэтазгоднасці выкарыстання тэрміна «нацыяналізм» і вытворных ад яго (апроч перакладных выданняў) у якасці сіноніма беларускай нацыянальнай свядомасці, ідэі, руху. Ён адзначыў, што паняцце «нацыяналізм» даволі часта выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі нацыянальных рухаў ці/і нацыятворчых працэсаў увогуле, і вызначыў два асноўныя значэнні выкарыстання гэтага тэрміна: 1) негатыўнае — шавінізм і яго разнавіднасці; 2) пазітыўнае — беларуская нацыянальная свядомасць, ідэя, рух і г. д. Такі падыход, адзначана ў выступленні, не з'яўляецца ўнікальным, уласцівым толькі для беларускай гістарычнай навукі. Паводле ўкраінскага даследчыка Ярaслава Грыцака, «пад нацыяналізмам разумеюць розныя рэчы, бо сам ён, як і кожная грамадская з'ява, з'яўляецца вельмі размытым і кепска вызначаным феноменам» (Грицак Я. Страсті за націоналізмом. Історичні есеї. Київ, 2004. С. 6). На недакладнасць тэрміна звярнуў увагу і польскі гісторык Кшыштаф Тышка (Tyszka K. Nacjonalizm w komunizmie. Ideologia narodowa w Zwi zku Radzieckim i Polsce Ludowej. Warszawa, 2004. S. 11). Падобным чынам тлумачыць сітуацыю з «нацыяналізмам» і расійскі даследчык Аляксей Мілер, спасылаючыся на Джона Хола. Ён піша: «Адзіная ўніверсальная тэорыя нацыяналізму немагчымая». На яго думку, нельга казаць пра «нацыяналізм», можна пра «нацыяналізмы» (Миллер А. Империя Романовых и национализм. Эссе по методологии исторического исследования. М., 2008. С. 54).

Звяртаючыся да вытокаў ужывання гэтага тэрміна самімі прадстаўнікамі беларускага руху пачатку XX ст., А. Унучак адзначыў, што сярод беларускай інтэлігенцыі, якая ўласна і ўвяла ў беларускую мову слова «нацыяналізм», гэты тэрмін меў адназначна негатыўныя пазначэнні. Ён азначаў выкрыўленне, сур'ёзнае скажэнне нацыянальнай ідэі і практыкі яе ажыццяўлення. У сучаснай беларускай гістарыяграфіі ёсць практыка ўжывання тэрміна «нацыяналізм» і вытворных ад яго ў дачыненні да расійскіх правых арганізацыяў, якія радыкальна выступалі супраць якой бы то ні было формы беларускай дзяржаўнасці (Забаўскі М. М., Пуцік У. С. Прадстаўніцтва ад Беларусі ў Дзяржаўнай Думе Расіі (1906—1917 гг.). Мн., 1998. С. 45; Бондаренко К. М., Лавринович Д. С. Русские и белорусские монархисты в начале XX в. Могилев, 2003. С. 113).

Гістарыяграфічны аналіз дазволіў паставіць лагічнае пытанне: наколькі правамоцным з'яўляецца выкарыстанне тэрміна «нацыяналізм», які мае два замацаваныя навуковай традыцыяй супрацьлеглыя значэнні? Больш правільным, падсумаваў выступленне А. Унучак, з'яўляецца выкарыстанне дадзенага паняцця ў якасці сіноніма шавінізму і вытворных ад гэтага тэрміна.

**А. М. Філатава, В. В. Яноўская** зрабілі агляд выкарыстання тэрміна «русіфікацыя» ў гістарыяграфічнай традыцыі. Гістарыяграфічны аналіз дае падставы сцвярджаць, што як да выкарыстання тэрміналогіі, так і да вызначэння самога працэсу *русіфікацыі/абрусення*, што адбываўся на тэрыторыі Беларусі, трэба падыходзіць больш уважліва, засяроджваючы ўвагу не толькі, а можа нават і не столькі на агульнаімперскіх тэндэнцыях, колькі на вылучэнні і вывучэнні беларускіх асаблівасцяў, зазначана ў выступленні. Да такіх асаблівасцяў адносіцца ў першую чаргу тое, што палітыка русіфікацыі на беларускіх землях праводзілася ва ўмовах інерцыйных працэсаў паланізацыі, што найбольш яскрава праяўлялася ў першай трэці XIX ст. і накладвала адбітак, дакладней — вызначала палітычнае і грамадскае жыццё краю. Дадзены аспект, але ўжо ў іншым праяўленні, працягваў існаваць і надалей. У 60-я гг. XIX ст. і да пачатку XX ст. адным са шматлікіх складнікаў (і адначасова адной з адметнасцяў) ажыццяўлення русіфікатарскай палітыкі Расійскай імперыі на тэрыторыі Беларусі стала рэлігійнае пытанне: дэпаланізацыя рымска-каталіцкага касцёла і выкарыстанне магчымасцяў пра-

васлаўнай царквы ў культурна-моўнай русіфікацыі насельніцтва. Характэрнай адметнасцю ўнутранай палітыкі Расійскай імперыі ў беларуска-літоўскіх губернях можна лічыць і тое, што і ў цэлым неабходны дзяржаўны курс на адміністрацыйную інтэграцыю, прававую сістэматызацыю, уніфікацыю дзяржаўнага і грамадскага ладу на далучаных тэрыторыях, што патрабаваў укаранення рускай мовы ў сістэму кіравання і адукацыі, пераўтвараўся на месцах ва ўціск правоў карэннага насельніцтва.

**В. Кірыленка** ахарактарызаваў мадэль інкарпарацыі і ўніфікацыі земляў былога Вялікага Княства Літоўскага ў апошняй чвэрці XVIII — пачатку XIX ст. як «аграрную русіфікацыю» ў адрозненне ад культурнай, якая была характэрнай для ўрадавай палітыкі ў заходніх губернях Расійскай імперыі пасля паўстання 1863—1864 гг. Перыяд 1830—1850-х гг. ён прапанаваў вылучыць у асобны, пераходны, дзе метады папярэдняга этапу аграрнай русіфікацыі выкарыстоўваліся ў якасці дапаможных элементаў, узмацнялі моўныя, рэлігійныя, адукацыйныя, адміністрацыйныя, прававыя захады па ўніфікацыі беларуска-літоўскіх зямель з вялікарасійскімі губернямі.

*Некалькі выступленняў закранулі канцэптуальныя падыходы да вызначэння сэнсу палітычных падзей, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі*:

**В. В. Яноўская** засяродзіла ўвагу на выніках папярэдняга даследавання, а менавіта: адлюстраванні сутнасці і значэння ваенна-палітычных падзей канца XVIII — XIX ст. на тэрыторыі Беларусі ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі. Яна адзначыла наяўнасць залежнасці ад расійскай і/або польскай гістарыяграфій. Ступень залежнасці розная: а) разуменне неабходнасці вывучэння расійскай і польскай гістарыяграфій скрозь прызму крытычна-навуковай ацэнкі ў адносінах да беларускай гісторыі; б) іх інерцыйны ўплыў; в) прыхільнасць часткі даследчыкаў да дзяржаўна-імперскай традыцыі расійскай гістарыяграфіі або «польскага патрыятызму» — польскай. Гэта абцяжарвае выпрацоўку навуковых падыходаў да даследавання тых ці іншых праблем, вызваленне ад ненавуковых ідэалагем, палітызаваных міфаў. Гістарыяграфічны аналіз даў падставы сцвярджаць, што незалежна ад абрання метадалагічнага падыходу да асвятлення ваенна-палітычных падзей канца XVIII — пачатку XX ст., вызначальнай падзеяй пры выбары канцэпцыі іх даследавання з'яўляецца ацэнка падзелаў Рэчы Паспалітай і ўключэння беларускай тэрыторыі ў склад Расійскай імперыі. Найбольш пераканаўчымі падаюцца навуковыя працы, якія грунтуюцца на трывалай дакументальнай базе і даюць падставы сцвярджаць, што дадзеныя падзеі не былі самастойным выбарам беларускага народа, а сталі вынікам палітыкі Расіі, Прусіі і Аўстрыі ў адносінах да Рэчы Паспалітай. Гэтае перакананне дазволіла аўтарам манаграфіі «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы» прапанаваць навукова абгрунтаваны метадалагічны падыход трактаваць знешнепалітычныя падзеі XIX — пачатку XX ст. з таго пункту погляду, што беларускія землі не з'яўляліся суб'ектам гэтых дзеянняў, а толькі аб'ектам. У адпаведнасці з прапанаванай метадалогіяй сутнасць унутрыпалітычных падзей на беларускіх землях неабходна разглядаць як імкненне часткі жыхароў былога ВКЛ (галоўным чынам шляхты), пад уплывам пачуцця згубленай дзяржаўнасці і агульнаеўрапейскіх ідэйна-палітычных працэсаў, аб'ядноўвацца вакол «польскай ідэі». Гэтая выснова пацвярджаецца аналізам публіцыстычных работ і мемуарнай літаратуры эмігрантаў паўстання 1830—1831 гг. з беларускіх зямель, якая дае магчымасць прасачыць шматузроўневую структуру іх самавызначэння (еўрапеец — паляк — ліцвін). (Падрабязней гл.: Матвейчык Д. Ч. Удзельнікі паўстання 1830—1831 гг. — ураджэнцы беларуска-літоўскіх губерняў: эміграцыя, гуртаванне, дзейнасць: дыс. ... канд. гіст. навук. Мінск, 2008.) І менавіта гэты другі ўзровень (паляк — як фактар дзяржаўнай прыналежнасці) праяўляўся ў ходзе паўстанняў канца XVIII—XIX стст.

**А. М. Філатава** адзначыла, што, нягледзячы на публікацыю ў апошнія два дзесяцігоддзі шэрагу работ і зборнікаў дакументаў, прысвечаных паўстанням 1794, 1830—1831 і 1863—1864 гг., ацэнка іх значэння для тэрыторыі Беларусі і Літвы да гэтага часу застаецца супярэч-

лівай. Галоўныя ж «дасягненні» паўстанняў, на яе думку, наступныя: паўстанне 1794 г. паспрыяла канчатковаму знішчэнню дзяржавы; паўстанне 1830—1831 гг. справакавала палітыку русіфікацыі; паўстанне 1863—1864 гг. выклікала яшчэ больш жорсткую русіфікацыю. У якасці адзінага станоўчага моманту апошняга паўстання была адзначаная адмена стану часоваабавязаных для сялян беларуска-літоўскіх губерняў. Што да мэты паўстанняў: аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах да 1772 г., то гэтая ідэя была чужой для сялян.

Да дыскусіі далучылася **А. Э. Фірыновіч**, якая пазначыла, што, нягледзячы на амаль 150-гадовую гісторыю вывучэння паўстання 1863—1864 гг., аналіз гістарыяграфіі і адпаведнага комплексу крыніц паказвае, што асобныя аспекты тэмы патрабуюць канкрэтызацыі і пераасэнсавання. Найбольш востра ў гэтым плане стаіць праблема характарыстыкі сацыяльнай асновы і рэгіянальных асаблівасцяў паўстання. Праца з дакументамі, што знаходзяцца ў беларускіх архівасховішчах, дазваляе вызначыць перспектыўныя кірункі даследавання. Сярод іх прыярытэтнымі павінны быць: фарміраванне нарматыўна-прававой базы палітыкі ўраду Расійскай імперыі і яе рэалізацыя на беларуска-літоўскіх землях у 1860-я гг.; стаўленне да падзей паўстання 1863—1864 гг. розных сацыяльных груп (службоўцаў, жанчын, вучнёўскай моладзі).

Такім чынам, нарматыўна-прававая база ўрадавай палітыкі, механізмы і шляхі яе рэалізацыі ўяўляюць сабой цэласны, узаемадапаўняльны працэс. У гістарыяграфіі ж ён часта разглядаецца як дзве асобныя з’явы, што падаецца не зусім правамерным. Сутнасць і мэты палітычнага курса, яго вызначальныя рысы, структурныя элементы былі забяспечаны інфармацыйнымі магчымасцямі дакументальных калекцый архіваў Расіі, Літвы, Польшчы. Таму яны даследаваны навукоўцамі даволі поўна. Другі бок — ажыццяўленне ўрадавага курса на мясцовым узроўні (губерня, павет, воласць) — патрабуе ўдакладнення і дадатковага навуковага аналізу, правесці які магчыма толькі на базе рэгіянальных архівасховішчаў.

Узровень інфарматыўнасці дакументаў беларускіх архіваў вызначаецца высокай ступенню дакладнасці і дазваляе правесці сістэмны аналіз урадавай палітыкі і працэсу яе ажыццяўлення на месцах як маналітнага і ўзаемазвязанага. А тым самым верыфікаваць крыніцы з архіваў Расіі, Літвы, Польшчы і канкрэтызаваць асаблівасці падзей на ўзроўні губерні, павета, воласці, што стварае трывалую платформу для выхаду на новы этап канцэптуальнага аналізу сутнасці і значэння паўстання 1863—1864 гг.

**Н. В. Анофранка** адзначыла, што даследаванне праблемы жаночай палітычнай актыўнасці ў беларуска-літоўскіх губернях у канцы XVIII — першай палове XIX ст. дае магчымасць больш выразна выявіць рэгіянальную спецыфіку ў параўнанні з цэнтральнымі расійскімі губернямі і з неспасрэдна польскімі тэрыторыямі. А таксама выявіць асаблівасці палітыкі ўрада Расійскай імперыі ў дачыненні да дваранства гэтай тэрыторыі. Сістэма дзяржаўнага кіравання Расійскай імперыі, сцвярджае яна, не прадугледжвала ўдзелу жанчын у палітычным жыцці і магчымасці іх актыўнага індывідуальнага ўплыву на палітычныя працэсы. Пасля далучэння беларуска-літоўскіх зямель да Расійскай імперыі палітычная дзейнасць прадстаўніц вышэйшага саслоўя ў формах, якія былі характэрны для Рэчы Паспалітай у эпоху Станіслава Аўгуста Панятоўскага, знікла. У новай дзяржаве пад уплывам унутраных і знешніх фактараў з’яўляліся і новыя формы жаночай палітычнай актыўнасці: ад індывідуальных дэмаршаў ці франдзіравання ў адносінах да прадстаўнікоў варожых бакоў, ахвяраванняў на патрэбы параненых салдат, маральнай падтрымкі ў час вайны 1812 г. да дапамогі ў стварэнні і ўдзелу ў паўстанцкіх атрадах у час паўстання 1830—1831 гг. У канцы 30-х гг. XIX ст. жаночая палітычная актыўнасць выйшла на больш высокі ўзровень — удзел у тайнай палітычнай арганізацыі. Менавіта пасля раскрыцця арганізацыі Ш. Канарскага жанчыны, як палітычныя злачынцы, пачалі высылацца ў Сібір.

Паводле **С. В. Марозавай**, канфесійная гісторыя Беларусі ў нас уведзена ў кантэкст грамадзянскай гісторыі, у вучэбную літаратуру. Але не ўся. Пытанне ліквідацыі ўніяцкай царк-

вы, як правіла, абыходзіцца маўчаннем. Па-ранейшаму пісаць і, галоўнае, друкаваць пра гэта не прынята. У чацвёртым томе шасцітомнай «Гісторыі Беларусі» (Мн., 2005) гэта пытанне ці не ўпершыню выдзелена асобным пунктам. Між тым ліквідацыю ўніяцкай царквы можна аднесці да эпахальных рэлігійна-палітычных падзей XIX ст. Нягледзячы на гэта, у беларускай гістарыяграфіі амаль не распрацавана пытанне пра рэакцыю беларускіх уніятаў на знішчэнне іх веры. На яе думку, ва ўрадавай палітыцы ў адносінах да ўніяцкай канфесіі можна вылучыць наступныя перыяды: 1) 1772—1795 гг. — ад дэкларацыі аб свабодзе вызнання веры да рашэння аб выкараненні ўніі; 2) 1796—1831/1832 гг. — перыяд, калі ўнію не чапалі, яна аднавіла свае пазіцыі, захоўваліся шансы яе развіцця і ператварэння ў нацыянальную царкву беларусаў; 3) 1833—1839 гг. — рэфармаванне ўніяцкай царквы ў духу збліжэння яе з Рускай праваслаўнай царквой і яе ліквідацыя. Водападзелам паміж этапамі з'яўляецца палітычны фактар — паўстанні.

*Шэраг выступленняў быў зроблены ў русле пошукаў крытэрыя(яў) для стварэння перыядызацыі гісторыі Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст., выяўлення ўзаемадачыненняў палітыкі і розных бакоў сацыяльна-культурнага і канфесіянальнага развіцця.*

**А. Г. Каханоўскі** звярнуў увагу на крытэрыі вызначэння сацыяльнай актыўнасці насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. На працягу другой паловы XIX — пачатку XX ст., адзначыў дакладчык, адбываецца адчувальны рост сацыяльнай актыўнасці насельніцтва Беларусі, што было звязана з пераходам грамадства да індустрыяльнага шляху развіцця. Дадзены працэс знайшоў праяўленне ў заўважным павелічэнні тэмпаў і з'яўленні новых шляхоў сацыяльнай і тэрытарыяльнай мабільнасці насельніцтва, новых формах і памерах удзелу ў грамадска-культурным жыцці, росце запатрабаванасці і якасці адукацыі.

Дынаміка ў часе выяўлення форм і ступені сацыяльнай актыўнасці насельніцтва Беларусі была неаднароднай, але даследаванне этапаў яе разгортвання дае практычнае супадзенне з вылучанымі ў айчыннай гістарыяграфіі перыядамі сацыяльна-эканамічнага і грамадска-культурнага развіцця. Разняволенне асобы ў 1861 г., змены ва ўмовах адмены прыгоннага права ў 1863 г., падзеі паўстання надалі моцны імпульс сацыяльным і грамадска-культурным працэсам. Новы дынамізм росту сацыяльнай актыўнасці насельніцтва Беларусі набывае ў 80-я і асабліва 90-я гг. XIX ст. У айчыннай гістарыяграфіі вельмі недаацэненыя апошнія пяць — сем год перад пачаткам Першай сусветнай вайны як асобны і вельмі імклівы этап у разгортванні трансфармацыйных працэсаў у беларускім грамадстве.

**І. В. Соркіна** прааналізавала ўплыў палітыкі царызму на працэсы ўрбанізацыі ў Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XX ст. Яна адзначыла, што на тэрыторыі Беларусі адбывалася моцная дэфармацыя ўрбанізацыйных працэсаў у выніку мераў расійскіх уладаў па высяленні яўрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі. І наогул фарміраванне гарадскога насельніцтва Беларусі ішло не столькі эканамічным шляхам, колькі з'яўлялася вынікам юрыдычна-адміністрацыйнага прымусу з боку царскіх уладаў. Гэта асноўны фактар дынамікі развіцця гарадоў і мястэчак дэмаграфічнага, эканамічнага, сацыяльнага, культурнага. Гарады Беларусі былі ўцягнутыя ў афіцыйную палітыку русіфікацыі, уключаныя ў абаронную сістэму імперыі і вылучаліся высокім узроўнем мілітарызацыі, мелі яскрава выяўленую адміністрацыйную функцыю. Аднак нашы гарады, адзначыла выступоўца, з іх складанай этнаканфесійнай, саслоўнай, прафесійнай структурай, нават пасля стагоддзя расійскага панавання не ператварыліся ў расійскія правінцыйныя цэнтры, а працягвалі заставацца гарадамі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. За ўніфікаваным фасадам рэгламентаванага дзяржаўнага механізму яскрава бачыцца мазаіка розных культур. Гарады і мястэчкі Беларусі здолелі перадолець цывілізацыйную манаполію Расійскай імперыі і застацца ў сваёй цывілізацыйна-культурнай прасторы.

Прадметам навуковага аналізу **В. А. Кахновіча** сталі буйныя землеўласнікі-дваране беларускіх губерняў, якія захавалі сваю эканамічную сілу, а праз гэта, насуперак дзяржаўнай

абмежавальнай палітыцы ў адносінах да мясцовай дваранскай супольнасці, істотную вагу і ролю ў грамадстве на мясцовым узроўні. Гэтую выснову ён дастаткова абгрунтавана пацвердзіў фактычным матэрыялам: наяўнасцю шэрагу паведамленняў і аналітычных запісак (Л. Саланевіч, Ф. Глінка, К. Анісімаў, К. Забелін, Ф. Ястрэмскі і др.), у якіх прызнавалася дадзеная акалічнасць; прыкладамі гаспадарчых практык у Мінскай губерні (Кяневічаў, Радзівілаў, Горватаў, Пуслоўскіх, Алешаў і інш.).

**Р. У. Зянюк**, даследуючы палітыку расійскага ўраду ў дачыненні да каталіцкіх навучальных устаноў у канцы XVIII—XIX ст., вызначыла некалькі этапаў у іх развіцці, якія, на яе думку, у значнай меры былі абумоўлены грамадска-палітычнымі падзеямі, што адбываліся ў краіне: 1) 1772—1803 гг.; 2) 1803—1830 гг.; 3) 1831—1863 гг.; 4) 1864 г. — канец XIX ст. Кожны з перыядаў характарызаваўся спецыфічнамі рысамі, мэтамі, кірункамі і вынікамі палітыкі расійскага ўрада адносна дзейнасці каталіцкіх навучальных устаноў. І калі на працягу першага і другога этапаў выразна абазначана тэндэнцыя павелічэння і развіцця гэтых навучальных устаноў, то пасля паўстання 1830—1831 гг. быў узяты палітычны курс на іх закрыццё, вынікам якога стала канчатковае выкараненне ўплыву каталіцкай царквы ў сферы адукацыі.

*Што тычыцца праблемы палітычнага працэсу як «прыкладання высілкаў» розных інстытутаў і груп на працягу «доўгага XIX стагоддзя»,* то тут, як адзначыў **С. Ф. Шымуковіч,** у цяперашні час склалася ўстойлівая цікавасць да *гісторыі кіравання*. У якасці мэтаў даследавання вызначаюцца самыя розныя пытанні: ад колькасці і складу службоўцаў, структуры і бюджэту ўстаноў да сацыякультурнага аблічча службовых асобаў, узаемаадносін мясцовых і цэнтральных органаў кіравання, урадавых і грамадскіх структур і г. д. Стварыць комплексную карціну развіцця дзяржаўнага кіравання беларускім рэгіёнам у XIX ст. магчыма шляхам пастаноўкі і паслядоўнай распрацоўкі інтэгральнай задачы, у адносінах да якой усё пералічанае вышэй з’яўлялася б прыватным момантам. На ролю такога цэнтральнага аб’екта даследавання можа прэтэндаваць даследаванне *эфектыўнасці* функцыянавання сістэмы кіравання.

Праблемы структуры органа або апарату кіравання, яго колькасці, кадравага складу, нацыянальнай і саслоўнай прыналежнасці, асноўных напрамкаў дзейнасці інстытутаў улады, іх адносін з элементамі грамадзянскай супольнасці з’яўляюцца вельмі значнымі, важнымі, але прыватнымі праявамі эфектыўнасці кіравання. Без рашэння праблемы эфектыўнасці кіравання як асноўнай, фундаментальнай іх распрацоўка можа страціць свой сэнс. У той жа час, арыентуючыся на рашэнне праблемы эфектыўнасці кіравання, можна атрымаць яснае разуменне таго, якія менавіта аспекты і напрамкі падлягаюць першачарговаму даследаванню і распрацоўцы, адзначыў даследчык.

Практычным вынікам сустрэчы сталася рашэнне аб неабходнасці практыкаваць правядзенне круглых сталоў з удзелам сувыканаўцаў дзяржпраграмы і надалей з мэтай абмену поглядамі на вырашэнне канкрэтных навуковых задач. У якасці такой задачы для наступнай сустрэчы прапанавана: выпрацаваць агульныя падыходы перыядызацыі гісторыі Беларусі XIX — пачатку XX ст. і ўнесці ўдакладненні ў адпаведнасці з гэтым у структуру мяркуемых раздзелаў шматтомніка.

Матэрыялы навуковага круглага стала падрыхтавалі да друку **В. В. Яноўская, А. У. Унучак**